*Прачытай сам і перадай другому.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 8 (4568)**

2 лютага 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля


## Паводле звестак праваабаронцаў, 31 студзеня ў Мінску сілавікамі былі затрыманы каля 170 чалавек. Як толькі будзе прызначана дата новых, па-сапраўднаму дэмакратычных прэзідэнцкіх выбараў, ёсць упэўненасць, што пратэстныя акцыі спыняцца.



**ПЕЧАЛЬНО!**

## Белорусские регионы считают убытки

*Города и районы Беларуси подводят итоги 2020 года. У многих территорий потери предприятий исчисляются десятками и сотнями миллионов.*

Убытки убыточных предприятий-флагманов по стране за 11 месяцев составили 6,032 млрд белорусских рублей. По сравнению с 2019 годом финансовые потери выросли более чем в 4 раза.

**В Брестской области** минусы у крупных и средних убыточных предприятий увеличились в 2,1 раза до 259,5 млн рублей. Доля убыточных компаний выросла с 12,6% до 14,5%.

Лидеры по размеру убытков на Брестчине – это Брест (65 млн рублей), Барановичи (67,5 млн) и Малоритский район (61,9 млн). По Бресту убытки подскочили на 43,3%, по Барановичам – в 10,2 раза, по Малоритскому району – в 4,8 раза.

**В Витебской области** потери убыточных предприятий возросли на 86,2% до 171,6 млн рублей, а их доля выросла с 11,9% до 12%. Первые места по убыткам в Витебской области заняли Витебск (92,5 млн рублей), Новополоцк (35,3 млн) и Полоцкий район (19,5 млн).

Относительно неплохие показатели на фоне других областей объясняются не успехами предприятий, а господдержкой. Компании АПК Витебщины в начале 2020 года получили подмогу по указу №70, что позволило им показать значительную «бумажную» прибыль.

**В Гомельской области** чистые убытки выросли на 63,8% до 396,8 млн рублей, а доля убыточных компаний – с 9,4% до 11,3%. Основные потери фиксируются по Гомелю, где убытки увеличились в 4 раза до 332,6 млн рублей.

**В Гродненской области** чистые убытки подскочили в 30 раз до 2,656 млрд рублей, а удельный вес убыточных предприятий вырос с 14,8% до 18,7%.

Основополагающая точка на карте региона – Островецкий район, в котором убытки взмыли ввысь до 2,243 млрд рублей. В этом районе возводится Белорусская АЭС.

Также крупные убытки показали предприятия Гродно (162,2 млн рублей) и Сморгонского района (151,4 млн).

**В Минской области** чистые потери достигли 439,9 млн рублей, что в 2,1 раза выше, чем в 2019-м. Доля убыточных компаний выросла с 14,2% до 19,2%. Самые крупные убытки образовались в Минском (99,4 млн рублей) и Червенском (46 млн) районах.

**В Могилевской области** чистые убытки выросли в 3,8 раза до 512,8 млн рублей, доля убыточных компаний – с 17,1% до 18,9%. Центры образования убытков на Могилевщине – это Бобруйск (196 млн) и Могилев (92,6 млн), Кричевский (67 млн) и Шкловский (66,9 млн) районы.

**В Минске** чистые убытки составили 1,596 млрд рублей, что в 3,1 раза выше, чем годом ранее, доля убыточных предприятий выросла с 16,6% до 22,2%. Главные убытки накопили организации промышленности (305,7 млн), транспорта (415,7 млн), гостиницы и рестораны (409,3 млн).

*(banki24.by)*

**ПЕРАСЛЕД**

## Як у Навагрудку 72-гадоваму Аляксандру Сцяпанавічу Быстрыку сарвалі экскурсію па горадзе

*Пенсіянер распавёў «Народнай Волі», як яго затрымалі ў мінулыя выхадныя і чаму праводзілі ў доме вобыск.*

**Аляксандр Быстрык** – паважаны ў горадзе чалавек. Былы дырэктар СШ №5 г.Навагрудка, многія яго добра ведаюць. У мінулую нядзелю ён быў затрыманы міліцыянерамі…

– Пачынаючы з жніўня мы, людзі з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, кожную нядзелю збіраліся на плошчы Леніна, – кажа Аляксандр Сцяпанавіч. – Праўда, апошнім часам такіх людзей стала значна менш – на гэта паўплывалі і штрафы, і суткі адміністрацыйнага арышту, и надвор'е. Напрыклад, мяне судзілі чатыры разы, агулам далі штрафаў на 110 базавых велічынь. Хтосьці з маіх малодшых сяброў адбываў пакаранне на “сутках” у Дзятлаве, Карэлічах, Лідзе…

Каб не быць пакараным, мы вырашылі выходзіць у нядзелю на вуліцу на законных падставах – ішлі ў мясцовы краязнаўчы музей і аплачвалі там экскурсію па горадзе, у якой і бралі ўдзел. І так рабілі рэгулярна. Праўда, за намі ўпарта ходзяць сілавікі, хаця, думаю, для іх гэта таксама карысна. Хоць будуць ведаць гісторыю роднага горада.



Апошнім часам у нас адбыліся сустрэчы і з мясцовым пракурорам, і са старшынёй райвыканкама Сяргеем Федчанкам. Чыноўнікі нам далі зразумець, што ім надакучылі нашы хаджэнні па вуліцах. У выніку мяне ў мінулую нядзелю затрымалі.

**– На якой падставе?**

– Я яшчэ нават не дайшоў да месца збору, як да мяне падышлі міліцыянеры і адправілі ў міліцэйскую машыну, а затым адвезлі ў райаддзел. Яны нават не ведалі, куды я іду. “За што затрымалі?” – пытаюся. “Пасля патлумачым”.

Адным словам, каля гадзіны трымалі ў аддзеле, а затым паказалі санкцыю на вобыск майго дома. Маўляў, я фігурую ў нейкім відэаролiку, а таму ў межах гэтай справы вобыск і адбудзецца. У выніку дом абшукалі, хаця нічога не забралі. Думаю, што гэта быў такі акт застрашвання, каб больш не ладзілі экскурсіі.

**– Больш не будзеце?**

– Відаць, збяромся, бо ў мінулую нядзелю экскурсію мы аплацілі, а нам яе сарвалі. І грошы ніхто не вярнуў.

**Алесь СІВЫ.**

**КАНВЕЕР**

### Суддзя Наталля Бугук за раніцу 1 лютага асудзіла 6 чалавек, у тым ліку хірурга і старшага выкладчыка БДУ

У судзе Фрунзенскага раёна Мінска **Наталля Бугук**, якая неўзабаве будзе судзіць журналістак Чульцову і Андрэеву, 1 лютага адправіла пад арышт урача, дачку фінансавага аналітыка, а ўсяго пяць чалавек.

**Сяргея Броўку** затрымалі паводле ч.1 арт.23.34 КаАП нібыта за сцяг на балконе, які міліцыянты ўбачылі 29 студзеня. Урач на судзе сказаў, што такім чынам праявіў сваю грамадзянскую пазіцыю, піша канал «Вясна назірае».

Хірург уваходзіць у адміністрацыю дваровых чатаў «Жудро-суседзі» і «Тарасава». Пра яго затрыманне 30 студзеня паведаміла прадстаўніца МУС **Вольга Чамаданава**. Падчасператрусу з яго кватэры сілавікі вынеслі камп'ютарную тэхніку і «пратэставую сімволіку». Раніцай 1 лютага яму прысудзілі 15 дзён арышту.

Агулам за першую палову дня 1 лютага Наталля Бугук паспела прысудзіць па 15 дзён арышту шасці асобам, у тым ліку **Наталлі Іосуб**, дачцэ фінансавага аналітыка Вадзіма Іосуба, і старшаму выкладчыку кафедры фізічнай электронікі і нанатэхналогій Белдзяржуніверсітэта Паўлу Пятрову. Адной затрыманай Бугук прысудзіла штраф у 870 рублёў.

9 лютага суддзя, якая адправіла за краты Сяргея Броўку, будзе судзіць палітзняволеных – журналістак Дар'ю Чульцову і Кацярыну Андрэеву – паводле крымінальнага артыкула.

**З-ЗА КРАТАЎ**

## Юлія СЛУЦКАЯ: «У мяне ўсё добра, наколькі гэта магчыма…»

*Дачка заснавальніцы “Прэс-клуба” распавяла, пра што піша маці.*

Нагадаем, што кіраўнік “Прэс-клуба” **Юлія Слуцкая** *(на фота)* была затрымана ранкам 22 снежня ў аэрапорце, калі вярталася ў Беларусь.

Зараз яна знаходзіцца ў СІЗА на Валадарскага

*“Мама трымаецца добра, перадае ўсім прывітанне і дзякуе за падтрымку”*, – паведаміла дачка Юліі Слуцкай Аляксандра. І працытавала некаторыя вытрымкі з лістоў маці.

#### Пра ператрусы

– Падчас ператрусаў нас усіх, акрамя дзяжурных, выводзяць у карцар. Гэта памяшканне метр на тры з паловай. У далёкім канцы – прыбіральня. Над ім замест зліву – кран з вадой. Адным словам, гэта яшчэ і рукамыйніца. Замест вентыляцыі над унітазам дзірка, ацяплення няма. Вялікая сырасць і холад. Драўляная дошка-ложак на дзень прыкручваецца да сцяны.

Вяртаемся ў зруйнаваную камеру. Сумкі з-пад ложкаў выцягнулі, матрацы загарнулі, рэчы выкінулі на ложак.

#### Пра побыт

– Па панядзелках у нас лазня, туды трэба ісці па вуліцы. Дзяўчаты ідуць у халатах і гумовых тапках на босую нагу. Я апранаю шкарпэткі і спартыўны касцюм. На 8 чалавек пяць кранаў. Душа няма, проста льецца струмень вады. На тое, каб памыцца, у нас 20 хвілін. Уключаючы распрананне і апрананне.

У мяне ўсё добра, наколькі гэта магчыма. Адзін дзень хварэла, але з лекамі, якія ты мне перадала, вельмі хутка выкараскалася. Толькі кашаль не спыняецца. Але, напэўна, гэта рэакцыя арганізма на нікацін.

Упарта працягваю трэніравацца два разы ў дзень. У любых умовах.

У камеры ёсць свой заведзены парадак. Шмат дробных правілаў, якія палягчаюць прымусова-сумеснае жыццё. Напрыклад, той, хто ідзе ў прыбіральню, уключае ваду. Кожны раз выціраем сурвэткамі пасля сябе ўнітаз, выціраем падлогу.

Працягваецца крызіс з лістамі. Мы ўжо месяц не атрымлівалі ніякіх вестак з дому. Усе на нервах. Пару раз прынеслі некалькі паштовак без зваротных адрасоў ад чужых людзей.

Трэба прызнаць, што калі ёсць яшчэ людзі, якія атрымліваюць інфармацыю толькі з тэлевізара, то прамыванне мазгоў выдатнае. Пачынаю заўважаць, што паддаюся нават я, вельмі добра дасведчаная, што гэта паралельная рэальнасць.

#### Пра сакамерніц

– У нас у камеры зараз 8 чалавек. Тры чалавекі – па наркатычным артыкуле, астатнія – палітычныя. Адна дзяўчынка ўжо атрымала 12 гадоў, цяпер ідуць апеляцыі.



У турму яна трапіла ў першы раз, дома яе чакаюць двое маленькіх дзяцей. Жах! Яшчэ большы жах, што ўсе, уключаючы палітычных, маральна рыхтуюцца адбываць пакаранне ў Гомельскай калоніі.

Распавяду пра дзяўчат у камеры. Тоня. Была валанцёрам “Краіны для жыцця”. Муж цяпер у гэтай жа турме. За двума маленькімі дзецьмі глядзяць бацькі. Ёй за 30 год. Вельмі спакойная, упэўненая, пісьменная.

Маша – актыўны ўдзельнік студэнцкага руху. Вучылася ў Акадэміі мастацтваў. Зусім юная, тоненькая. Ідэалістка.

Саша – ёй ледзь за 20, яна сірата. Падобная на маленькага фламінга (у галаве ружовыя пасмы). Вельмі разумная, добра малюе. Яна валанцёрка, выкідала мяшок са смеццем, які збірала за пратэстоўцамі. Яе хочуць абвінаваціць у будаўніцтве барыкад. Хутка суд.

Аліна. Укусіла за нагу міліцыянта ў РУУС, які заламаў ёй рукі.

Вось такая кампанія…

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

**КРИК ДУШИ**

### Ольга КУЧЕРЕНКО, сестра Романа Бондаренко:



***– Чем дальше, тем больше открывается правды. И я уверена, что еще много чего другого всплывет. Одно невозможно никак принять: УБИТ МОЙ БРАТ! Какие-то люди решают, что им позволено лишать жизни другого человека. Это жизнь человека! ЖИЗНЬ!!!***

***Неужели с мыслью, что ты преступник, убийца, пособник убийства, возможно спокойно жить?! Я не хочу видеть этих людей. Но я с удовольствием взглянула бы в глаза их родителям!***

АСОБА

# Мікола КУПАВА: «Бел-чырвона-белы сцяг непадсудны, гэта прызнаны народам нацыянальны сімвал»

*Генеральная пракуратура Беларусі паабяцала прызнаць бел-чырвона-белы сцяг экстрэмісцкай сімволікай. Нібыта ідучы насустрач “неабыякавым грамадзянам”, якія звярнуліся ў гэта ведамства з адпаведным хадайніцтвам. Мы вырашылі пацікавіцца, як да такой ініцыятывы ставіцца Мікола КУПАВА – аўтар эталона дзяржаўнага бел-чырвона-белага сцяга, прынятага Вярхоўным Саветам у 1991 годзе. Тым больш для нашай сустрэчы была яшчэ адна, куды больш прыемная, нагода – 75-годдзе мастака.*

**– Спадар Мікола, найперш скажыце, як вы сябе пачуваеце пасля перанесенага ў снежні каранавіруса? Здаецца, і ў бальніцы давялося паляжаць?**

– Так, у мінскай шостай бальніцы, якая пераабсталявана пад каранавірусных пацыентаў. Цяпер пачуваюся нармальна. Мне пашанцавала, што я не запусціў хваробу: патэмпературыўшы некалькі дзён, выклікаў “хуткую” і адразу трапіў у бальніцу. Дзякуй дактарам, там было вельмі добрае лячэнне, кіслародныя апараты даступныя. Палячыўся, падыхаў кіслародам два тыдні, а потым мяне завезлі ў Аксакаўшчыну на падмацаванне. Арганізм цалкам аднавіўся. Пакуль я лячыўся, сын перахварэў дома. Таксама, здаецца, без наступстваў.

**– Я застаў вас за працай. На мальберце – нейкая старасвецкая бітва вымалёўваецца. Што за баталія?**

– Бітва пад Хацінам 1621 года, дзе сустрэліся войска Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага, з аднаго боку, і турэцка-татарская армія – з другога. Аб’яднаным войскам кіраваў наш суайчыннік вялікі гетман Ян Караль Хадкевіч – і разбіў туркаў. Сёлета мы адзначаем 400-я ўгодкі той бітвы. Восенню мы, мастакі, плануем зладзіць выставу, запрасіўшы палякаў, украінцаў і літоўцаў. Значэнне Хацінскай бітвы не меншае, чым Грунвальдскай, уся Еўропа тады з палёгкай уздыхнула. Тагачасны Папа Рымскі нават распарадзіўся штогод служыць у касцёлах імшу ў гонар перамогі Хадкевіча, і яна служылася – па ўсёй Еўропе – аж да канца XIX стагоддзя.

**– Над войскам Яна Хадкевіча відны бел-чырвона-белыя сцягі, якія Генеральная пракуратура Беларусі днямі паабяцала прызнаць экстрэмісцкімі і фашысцкімі. Калі будзе прыняты адпаведны заканадаўчы акт, за выкарыстанне сцяга будзе ўведзена крымінальная адказнасць. Як вы да гэтага ставіцеся?**



Мікола Купава ў “кампаніі” з князем Альгердам.

– Як да нябачанага дасюль дурноцця. Як можна забараніць сцяг, за якім – стагоддзі гісторыі? Пры чым тут нейкія немцы, пры чым паліцаі? Упершыню бел-чырвона-белы сцяг з’явіўся на гравюры 1444 года! На той гравюры – бітва з туркамі пад Варнай, у якой таксама ўдзельнічалі войскі ВКЛ. Бел-чырвона-белыя сцягі масава паказаны на славутай карціне “Бітва пад Оршай 1514 года”. У 1917-м, яшчэ да абвяшчэння БНР, вайскоўцы-беларусы былой царскай арміі ўпрыгожвалі свае мундзіры бел-чырвона-белымі стужкамі і значкамі. Таму Клаўдзій Дуж-Душэўскі ў 1918-м, ствараючы сцяг для БНР, нічога не выдумляў, ён проста ўзяў правераны стагоддзямі сімвал. Помню, як у 1990 годзе ў Полацку ўладыка Філарэт па нашай просьбе ўрачыста асвяціў бел-чырвона-белы сцяг, які праз год стаў дзяржаўным. Бел-чырвона-белыя палоскі, якія сімвалізуюць кроў Хрыста, абавязкова прысутнічаюць на епіскапскім аблачэнні. Дык што, Генеральная пракуратура цяпер і Хрыста будзе судзіць?!

**– Пракуратура тлумачыць, што з просьбай прызнаць нацыянальны сцяг экстрэмісцкім да яе звярнуліся “100 неабыякавых грамадзян”. Але толькі за адны суткі петыцыю ў абарону сцяга падпісалі 50.000 чалавек.**

– Гэта яшчэ раз сведчыць, што бел-чырвона-белы сцяг прыняў увесь народ. Генеральная пракуратура павінна зразумець, што нашы нацыянальныя сімвалы непадсудныя, яны аб’ектыўна існуюць у нашым жыцці незалежна ад палітычнага надвор’я на вуліцы.

**– Вы ж аўтар эталона дзяржаўнага бел-чырвона-белага сцяга. Помніце, як ён ствараўся?**

– Як такое забудзеш? У параўнанні з працай аўтара эталона дзяржаўнага герба мая была больш сціплай – трэба было выбраць дакладны чырвоны колер (ён жа мае розныя адценні) і вызначыць прапорцыі шырыні тканіны ды яе даўжыню. Помню, як да нас у камісію Вярхоўнага Савета прыходзілі спецыялісты з Мінскага камвольнага камбіната, усё ўдакладнялі, каб тут жа запусціць сцягі ў вытворчасць. Іх жа для ўсёй краіны патрэбна было безліч.

**– Нядаўна ў букіністычнай краме мне трапілася на вочы аздобленая вамі кніга для дзяцей “Сіняя світа налева пашыта”. Я звярнуў увагу, што на малюнках там някідкія, але заўважныя бел-чырвона-белыя сцягі, а год выдання – 1986. Як вам удавалася нават у савецкі час прапагандаваць нацыянальную сімволіку?**

– Вось жа неяк удавалася. Што да згаданай вамі кніжкі, то там была цэлая гісторыя. “Крамолу” на яе старонках заўважыў сам загадчык аддзела культуры ЦК КПБ Іван Антановіч (а ён за ўсімі ідэалагічнымі праявамі вельмі пільна сачыў) і даў каманду зняць кніжку з продажу. Ёю займалася адмысловая камісія, куды мяне выклікалі. І так сталася, што на мой бок сталі гісторыкі, патлумачыўшы парторгам розных узроўняў, што ніякага супярэчання гістарычным фактам на малюнках яны не бачаць.

**– А кніжку ў продаж вярнулі?**

– У кнігарнях я яе больш не бачыў. Частку накладу, відаць, пусцілі пад нож. Але няма ліха без дабра. Маёй “Сіняй світай...” зацікавіліся ў... Індыі. Індусам спадабалася кніжка, і яны тут жа, у Беларусі, заказалі яе перавыданне па-англійску – для замежжа. З шыкоўнай паліграфіяй. Тут ужо Антановіч умяшацца не мог. Помню, як да мяне прыбег мастак Генадзь Сокалаў-Кубай: “Мікола, твая “Сіняя світа...” прадаецца ў “Цэнтральнай” кнігарні”. Я хуценька паехаў і набыў цэлы пакунак. Так што Індыя паспрыяла, каб наш сцяг пабачылі ва ўсім свеце.

**– Відаць самы тыражаваны ваш твор – гэта выява Пагоні на фоне бела-чырвона-белага сцяга, змешчаная на канверце яшчэ савецкага часу ў 1990 годзе. Мільённы наклад! А ў гэтым выпадку хто паспрыяў?**

– Гэты канверт выйшаў у свет па ініцыятыве геральдыста Анатоля Цітова, светлая яму памяць. Ён падаў заяўку, і тады яшчэ саюзнае Міністэрства сувязі пагадзілася. Самае цікавае, што я паказаў Пагоню на фоне карты, якую склаў прафесар Пецярбургскага ўніверсітэта Яўхім Карскі. Гэта так званая карта “белорусского племени”, дзе Смаленшчына і Браншчына прызнаны беларускімі. Канверт з Беларуссю ад Беластока да Смаленска мільённым накладам быў надрукаваны ў Пензе, і ніхто ў мяне не спытаўся, што там за карта намалявана. А яна для нас вельмі важная, бо БНР была абвешчана якраз на аснове той карты. А ў 1991 годзе выдавецтва “Беларусь” замовіла мне паштоўку з нацыянальнымі гербам і сцягам. Потым былі заказы на маркі – таксама з нацыянальнай сімволікай...

**– За якую ўжо сёння, да рашэння Генеральнай пракуратуры, штрафуюць і кідаюць за краты. Напрыклад, 18-гадовая Сафія Малашэвіч, якая размалявала шчыты амапаўцаў нацыянальнымі колерамі, атрымала два гады калоніі.**

– І за што? Якую шкоду яна прычыніла дзяржаве? Тыя палоскі са шчытоў за пяць хвілін змылі. Так не павінна быць!

**– Ваш калега і сябра Яўген Кулік намаляваў партрэт Міколы Гусоўскага з... сябе. А ў вас падобнай спакусы пры стварэнні партрэтаў вялікіх князёў ВКЛ не ўзнікала?**

– Не, як кажуць, не ўдаўся тварам. А калі Яўген працаваў над Гусоўскім, то мы з сябрамі неаднойчы збіраліся ў яго майстэрні і абмяркоўвалі, як павінен выглядаць аўтар славутай “Песні пра зубра”. Прыжыццёвых жа выяў не захавалася. І гэта мы сказалі Куліку: слухай, Яўген, тваё аблічча вельмі падыходзіць. Тады ж, да 500-годдзя Гусоўскага, выйшла яго паэма, а мы ў Саюзе мастакоў зрабілі шыкоўную выставу. Прыемна ўспомніць – гэта быў сапраўдны фурор!

**– Вы настолькі жылі айчыннай гісторыяй, што нават імёны сваім дзецям далі гістарычныя – Вітаўт і Рагнеда. Стаўшы дарослымі, яна за гэта бацьку не папракалі?**

– Не папракалі. Вітаўт сказаў, што любіць сваё імя, Рагнеда трохі менш інфармацыі мела, але, калі я расказаў ёй пра полацкую князёўну Рагнеду, яна супакоілася. Памятаю, як Вітаўта не хацелі запісваць у загсе. Я разлаваўся, узяў бланк і сам усё напісаў. З Рагнедай ужо было прасцей – ішоў 1992 год, і чыноўнікі вучыліся шанаваць гісторыю сваёй краіны.

**– Вы аздобілі каля 40 кніг, некаторыя з іх да гэтай пары перавыдаюцца з вашымі ілюстрацыямі – напрыклад, “Лебядзіны скіт” Уладзіміра Караткевіча ці “Судны дзень Скарыны” Міколы Арочкі. А ці ўдаецца вам супрацоўнічаць з дзяржвыдавецтвамі сёння?**

– Ужо гадоў дзесяць выдавецтвы да мяне не звяртаюцца. Што да прыгаданага вамі “Суднага дня Скарыны”, то яго перавыдалі без майго ведама, парушыўшы аўтарскае права. Там якасць – ніжэй за нуль, гэта проста здзек з таго, што зрабіў мастак. Гэта, дарэчы, не адзінкавы выпадак. Месяцы два таму я пабачыў у краме хлеб пад назвай “Літоўскі”, на ўпакоўцы – мая гравюра “Вільня”. Выпякаюць яго на Ваўкавыскім хлебазаводзе. Дазволу ў мяне ніхто не пытаўся, фактычна, укралі мой твор.

**– Дык няхай бясплатна вас хлебам забяспечваюць! Ён хоць смачны?**

– Смачны, але ж так не робіцца. Няхай выкарыстоўваюць, я не супраць. Але няхай спачатку разлічацца. Я буду гэтага дамагацца.

**– Гэта, па-мойму, ужо не першы выпадак у вас?**

– Не першы. Неяк у Гомелі выпусцілі гарэлку “Вітаўт” з маім партрэтам князя на бутэльцы. Тады я выйграў суд.

**– А завод у дасудовым парадку не прапаноўваў вам скрынь дзесяць гарэлкі бясплатна?**

– А навошта мне столькі? Паводле рашэння суда я атрымаў грашовую кампенсацыю.

**– *“На сход, на ўсенародны, грозны, бурны сход / Ідзі, аграблены, закаваны народ!”* – заклікáў Янка Купала. А што вы думаеце пра “усебеларускі сход”, які мае адбыцца ў Мінску?**

– Туды ўлада збярэ сваіх людзей, прадстаўнікоў дэмакратычных сіл там ніхто не чакае. Калі б гэта быў сапраўды ўсебеларускі сход, то на ім мусілі б быць прадстаўнікі і апазіцыйных партый, і розных грамадскіх рухаў.

**– Уявім сабе такую сітуацыю. У зале – тры тысячы чалавек, на ўсю сцяну лозунг “За сильную и процветающую Беларусь!”, а на трыбуне – Мікола Купава. Што б вы сказалі людзям, якія сабраліся?**

– Цяжка такое ўявіць... А сказаў бы я вось што. Беларусь можа квітнець толькі пры дэмакратычным ладзе, калі выконваецца закон. Квітнеючая і незалежная Беларусь – гэта найперш нацыянальная школа, якой фактычна няма, гэта культура на аснове старажытных традыцый, гэта свая гісторыя ў падмурку... Але чаго я на тым сходзе не бачыў? Лепш я папрацую над сваімі творамі. Гэта для мяне важней.

**– Калі б вам было дазволена на сваё 75-годдзе атрымаць ад Бога нейкі падарунак, што б вы папрасілі?**

– Папрасіў бы, каб Беларусь стала свабоднай, сапраўды незалежнай і беларускамоўнай краінай і каб усе беларусы ёю даражылі. У саюзе з Расіяй незалежная Беларусь – гэта блеф. Масква заўжды будзе трымаць нас у кабале.

**– Дык гэта просьба для ўсяго народа. А для сябе асабіста?**

– Тое самае папрасіў бы. Гэта для мяне асабіста. І для ўсіх.

**Міхась СКОБЛА.**

СІТУАЦЫЯ

# Алесь Пушкін: «Калі б быў дома, без бойкі сцяг не аддаў бы...»

*Вядомы мастак распавёў “Народнай Волі”, як у мінулыя выхадныя з яго дома міліцыянеры здымалі бел-чырвона-белы сцяг.*

– Відаць, спецыяльна вырашылі зняць сцяг у маю адсутнасць, каб мяне не арыштоўваць, – *кажа* ***Алесь ПУШКІН***. – Бо без бойкі я яго не аддаў бы.

Але мяне не было, і бел-чырвона-белы сцяг быў гвалтоўна зламаны, хаця да гэтага 24 гады лунаў над маёй хатай і нікому не перашкаджаў.

Напярэдадні старшы інспектар Крупскага РУУС **Дзмітрый Мікалаевіч Дзяго** патэлефанаваў маёй жонцы і запытаўся, дзе яна знаходзіцца. Тая была ў краме, міліцыянер сказаў, каб ішла дадому. Яна прыйшла і ўбачыла, што ля хаты стаяць “вышка” і міліцэйская машына. Коратка паведамілі, што прыехалі здымаць сцяг. Яна ім у адказ: “Дачакайцеся мужа, ён прыедзе праз дзень”. Зараз я працую на Магілёўшчыне, ў Жылічах Кіраўскага раёна, на рэстаўрацыі палаца Ігната Булгака. Але ніхто чакаць не стаў.

**– А што са сцягам? Забралі?**

– І сцяг, і герб “Пагоня”, які знаходзіўся на франтоне, жонцы аддалі пад распіску да суда. Значыць, збіраюцца мяне яшчэ і судзіць.

**– Ці будзеце зноў вывешваць сцяг над хатай?**



– Пакуль не буду, бо што нам застаецца? У нас і так беларускамоўная сям’я, мы ўсе гамонім на роднай мове, а ў хаце святыні вісяць разам з бел-чырвона-белымі сцяжкамі. Таму мы ў любым выпадку застаёмся свядомымі беларусамі.

Ну ўздыму я зноў над дахам сцяг, і што далей? Плаціць 30 базавых велічынь? Альбо прыедуць міліцыянеры, будзе канфлікт, распачнецца бойка. Затым могуць не толькі 15 сутак даць, але і распачаць крымінальную справу. Таму, відаць, не варта бегчы з кулакамі на танк.

**– Вы казалі, што сцяг вісеў 24 гады...**

– Так, з 1997 года, і не было ніякіх прэтэнзій ні з боку міліцыі, ні з боку пракуратуры. І зараз я, відаць, напішу заяву ў пракуратуру, прыкладу відэа таго, як здымалі сцяг, і запытаюся: на падставе якога канкрэтна закона гэта зроблена? Я разумею, што зняць бел-чырвона-белы сцяг – гэта не асабістая ініцыятыва таго ж міліцыянера Дзяго, загады ідуць ад куды больш высокага начальства. Вы ж бачыце, да чаго дайшло: хочуць прызнаць нацыянальную сімволіку экстрэмісцкай.

Дарэчы, жонка сказала, што міліцыянеры былі дастаткова добразычлівыя, не было з іх боку ніякай агрэсіі. 24 гады ім не было ніякай справы да гэтага сцяга, але відавочна, што зараз загады пайшлі зусім іншыя. Тым, хто наверсе, патрэбна знішчыць апошнія бастыёны Беларушчыны.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**P.S.** *Я звярнуўся да начальніка Крупскага РУУС* ***Дзмітрыя Фіцкевіча*** *з просьбай патлумачыць, на якіх законных падставах сцяг знялі з прыватнага дома, але той адмовіўся нешта каментаваць і параіў звяртацца ў прэс-службу МУС.*

КАМЕНТАРЫЙ ЮРЫСТА

## Валянцін СТЭФАНОВІЧ, праваабаронца:

*– Гэтая сітуацыя ўпісваецца ў тэндэнцыю апошняга часу. Ужо ёсць шэраг спраў з прыцягненнем людзей да адміністрацыйнай адказнасці за тое, што на балконах іх кватэр былі бел-чырвона-белыя сцягі альбо на вокнах меўся ўзор такой афарбоўкі. Гэта лічыцца як быццам правядзеннем несанкцыянаванага пікета.*

*З прававога пункта гледжання такая сітуацыя – абсурд, бо ўласная кватэра альбо прыватны дом – гэта не публічная тэрыторыя, а таму не датычыцца ніякіх масавых мерапрыемстваў. Сцяг на балконе ці на даху хаты можна разглядаць як выказванне свайго ўласнага меркавання ці грамадзянскай пазіцыі, але, згодна з Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, гэта не з’яўляецца парушэннем закона.*

*Апошнім часам ідуць размовы аб прызнанні бел-чырвона-белага сцяга экстрэмісцкай сімволікай, і калі такое адбудзецца, то да адказнасці будуць прыцягваць, нават калі вы яе размяшчаеце у сваёй машыне альбо на доме. Але ж пакуль гэта не ўзаконена. Таму і прымяняюць норму, якая дазваляе караць за “несанкцыянаваныя пікеты”. Хаця, паўтаруся, тэрыторыя прыватнага памяшкання – гэта не публічнае месца, а масавыя мерапрыемствы могуць адбывацца толькі ў публічных.*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
2 ЛЮТАГА 2021 г.

ОТКРОВЕННЫЙ РАЗГОВОР



Олег СУКОНКО:

# «Нужно давать честную статистику по коронавирусу!»

*Олег Суконко – не только доктор медицинских наук, профессор, заслуженный врач Беларуси, лауреат Государственной премии, он еще и член Совета Республики. Значит, должен быть среди участников так называемого Всебелорусского народного собрания.*

*Намерен ли он там выступить, открыто сказать о беспрецедентном прессинге на медиков, озвучить все требования из открытого письма врачей, под которым подписались больше четырех тысяч человек?*

**– Олег Григорьевич, вас назначили главным по коронавирусу в Могилевской области. Расскажите, как там идут дела, есть успехи?**

– Меня назначили, я съездил туда, мы наметили планы, а потом я ушел на больничный – позвоночник на охоте сломал. И сейчас всё еще восстанавливаюсь.

**– Как это вы так умудрились?**

– Ну вот так: там спуск небольшой был, ноги поехали вперед, и я всем своим весом приземлился на пятую точку. И первый поясничный позвонок сломался.

А в Могилевской области мы наметили глобальный план действий. Я встречался и с губернатором, и со всеми его заместителями. Они неплохо работают, но инфекционная больница – старая, нужна новая.

Мое личное мнение такое: загружать больницы общего профиля ковидными больными – это неквалифицированно. Должны быть специальные инфекционные клиники, и я об этом докладывал Наталье Кочановой – нужна специальная программа этого направления. Во главе с РНПЦ эпидемиологии нужно давать нормальную, правильную, честную статистику по коронавирусу и от нее исходить. Никто не должен бояться этой статистики! Сколько у нас по-настоящему людей больны ковидом? Ни вы, ни я не знаем точного ответа.

**– А вы поднимали вопрос про статистику в верхах?**

– Я не просто поднимал, а наехал по этому поводу на нынешнего и предыдущего министров здравоохранения. Я спрашивал: где конференция по итогам первой волны коронавируса? Почему не провели, не объяснили, не сделали выводы? Это самое важное – сделать вводы, наметить программу, понять, что делать дальше. Коронавирус никуда не денется. Значит, должна быть госпрограмма масштабная, включающая строительство, перестройку, ремонт всех инфекционных больниц. И штаб должен возглавлять главный эпидемиолог страны, директор РНПЦ эпидемиологии, которого не слышно и не видно. Не устраивает он вас – так поменяйте. И в этом центре должна определяться генетическая структура вирусов, которые у нас циркулируют. Надо знать, будет на них действовать российская вакцина или нет. Это большие исследования! Нужно обстоятельно этим заниматься, структуру выделить, деньги, потому что это только начало – допускаю, что коронавирус будет и в следующем году, он лишь изменит свою природу. Моя точка зрения как бывшего онколога (я сейчас не работаю), что это искусственная вещь, созданная за рубежом, и она будет циркулировать постоянно. А потом еще что-то придумают. И мы должны быть готовы к этому очень серьезно.

Да, у нас ведут борьбу с этим вирусом, но надо, чтобы это делалось на высочайшем уровне. Надо серьезно заниматься проблемой, а не просто тушить пожар.

Не знаю, может, и Лукашенко о моих словах доложили, но после этого моего выступления со мной стали как-то холодно здороваться. Люди должны знать правду! Так было у нас в онкологии, когда я работал. Мы вели статистику, дублировали ее. У нас же есть национальный статистический комитет…

**– …который вообще перестал публиковать данные по смертности.**

– У нас привыкли всё прятать, чтобы всё было якобы тип-топ. А в онкологии мы свою статистику вели, у нас был специальный отдел в РНПЦ, и мы следили за каждым больным. И, исходя из конкретных цифр, уже принимали решение, как нам развиваться, что строить, куда двигаться. Может, я не прав, но, как практик, считаю, что так надо делать. Но у нас нет людей, которые способны сказать высокому начальству, что это нужно.

**– Так вы же сенатор, можете всё это озвучить на Всебелорусском собрании. И вы хороший оратор.**

– А стоит ли?..

**– Вы же знаете об открытом письме врачей, в котором выдвинут ряд серьезных требований к власти. Вы его подписали?**

– Не подписывал и, честно говоря, даже не читал. Я как сенатор даже не вмешивался в это. Сидел тихо.

**– Хотя, как сенатор и авторитет в медицине, как раз и должны были не отмалчиваться, а сказать свое слово.**

– Вы видели на днях новости, как Лукашенко выступал? Там генералы сидели и дрожали, глаз не поднимали, когда он говорил, что всех нужно за коррупцию посадить и отобрать всё до последней нитки!

**– К генералам, конечно, есть вопросы. Но, кажется, именно на этом совещании Лукашенко впервые признал: мол, парни, у нас с вами тоже косяков хватает. Мне хотелось бы, чтобы эти слова на свой адрес принял не только генеральный прокурор, но и сидевший там председатель Верховного суда Валентин Сукало. Потому что то, что сегодня творится в судах, – это всё происходит с его молчаливого согласия.**

– Сукало не будет выступать, поэтому он до сих пор на этой должности. Всё определяет Лукашенко.

**– Так может, вам, в отличие от дрожащих генералов, всё же стоит выступить на Всебелорусском собрании и назвать вещи своими именами?**

– Наверное, кроме меня никто и не скажет…

**– У меня к вам еще один деликатный вопрос. На вашей странице на сайте Совета Республики в графе «Адрес и служебный телефон» указано: административное здание на пересечении МКАД и Логойского тракта. Это почти как у Чехова – на деревню дедушке! Там же указано, что вы являетесь заместителем руководителя по связям с общественностью ЗАО «Выставочный центр «Аквабел»…**

– Я уже директор, меня повысили!

**– А почему вы, известный онколог, доктор наук, ушли из медицины?**

– Меня ведь эвакуировали. И постарались, чтобы меня нигде больше не было.

**– Было много разных слухов по этому поводу, в том числе и о ваших непростых отношениях с бывшим министром здравоохранения Караником…**

– С Караником у нас личная неприязнь. Причем серьезная. Я считаю, что он редкий первостатейный демагог. Это Качанова его ввела… Когда меня просили дать ему характеристику, я сказал: могу написать большими буквами на листе, но это будет нехорошее слово.

А когда он пришел в министерство, меня выкинули без права трудоустройства.

**– Я еще как-то могу понять про государственные клиники, но ведь есть куча частных…**

– Я без дела не сижу. Пытаюсь создать свой институт косметологии и пластической хирургии. Есть возможности, есть финансирование. Но в течение года уже не можем получить место, где мы хотели строить.

**– Вы онколог, почему вдруг пластическая хирургия и красота?**

– Я не могу сейчас все карты раскрывать…

Еще я консультирую в одном из областных частных центров по поводу создания центра по раннему выявлению рака. Если всё получится, то каждый сможет обследоваться на наличие рака в организме. Так что работой я себя завалил. Мне интересно в этом направлении двигаться, новая стезя.

**– Наверное, сейчас чувствуете себя более свободным?**

– Да.

И раз уж я коснулся темы пластической хирургии, то могу сказать откровенно: у нас ее на настоящем уровне нет – ни государственной, ни частной. Но это тема для отдельного разговора, может, дам отдельное интервью, когда начнем строить.

**– Вы говорите, что у вас с прежним министром здравоохранения сложные отношения. А с нынешним?**

– Нынешний, видимо, на меня разобиделся, когда я очень резко выступил по поводу сосредоточения всех средств, оснащения и переоснащения клиник. Он тогда еще не был министром. Может, подумал, что я претендую на этот высокий пост.

**– Но сейчас его мечта сбылась, он в статусе…**

– К сожалению, он не способен ничего поменять и продвинуть. Там нужно менять тотально всё министерство и брать нормальных профессионалов. А многих ушли…

**– Кстати, о профессионалах. Открытое письмо медиков подписало немало авторитетных людей. Тот же экс-глава РНПЦ «Кардиология» академик Мрочек…**

– Мрочек?.. После того как я очень жестко выступил против Караника на одной из коллегий Минздрава, где меня хотели распять, Мрочек сказал мне: ну зачем ты так резко? Я предлагал тогда ему и другим коллегам написать коллективное письмо А.Лукашенко о том, что происходит. Не рискнули. А потом видите, как получилось…

**– А могли бы вас, конечно, послушать…**

– Никто не хотел слушать. А может, потом и не дали бы мне даже в частных структурах работать, и средств к существованию вообще не было бы.

**– Да ладно, вы же столько лет при должности и при статусе, какая-то подушка финансовой безопасности у вас должна быть.**

– Кстати, сильно искали и проверяли всё, что у меня есть. Видимо, хотели посадить. Еще при Каранике было, 70 человек проверяло – ничего не нашли! Уволили меня по статье «Без объяснения причины увольнения» – оказывается, есть такая статья для руководителей.

**– С другой стороны, слава Богу, что на свободе!**

– Да, это самое главное!

**– Говорят, болезни неслучайно приходят, и если уж хворь уложила тебя в постель, значит, Вселенная дает время подумать, что ты делаешь не так, поразмыслить над всем, что происходит в твоей жизни, расставить приоритеты…**

– Грехи наши!.. И зависть человеческая.

**– Вы завидуете кому-то?**

– Я – нет, а вот мне завидуют.

**– Коронавирус вас миновал?**

– Нет, переболел. Не тяжело, но средне.

**– Что вы думаете по поводу вакцинации? Я смотрю, что даже среди врачей мнения по этому вопросу полярные…**

– Вопрос очень сложный…

Мое мнение: надо вакцинироваться. И именно российской вакциной. Она поднимает общий иммунитет. Да, могут быть осложнения, но она неспецифическая, действует на иммунитет.

**– Не известно же, как потом аукнется эта иммунная активизация…**

– В химиотерапии есть новое направление, еще когда я уходил, мы им занимались: берется своя опухоль, таким образом создается антитело против рака, которое борется с раковыми клетками, оставшимися в организме, путем воздействия на иммунитет. Это чрезвычайно перспективное направление в онкологии! Я хотел у нас его развивать…

Поэтому мое личное мнение по поводу вакцины от ковида: прививаться надо, это стимулирует иммунитет. Причем прививаться надо не только тем, кто не болел, но и тем, кто перенес коронавирус. Если анализ показал, что после болезни антител много, значит, можно какое-то время не прививаться. Поэтому, по моему умозаключению, тем, кто перенес коронавирус, можно один раз вводить вакцину, а кто не перенес – два раза. И я именно за российскую вакцину. Я знаю, что серьезные люди работали над ее созданием.

**– Олег Григорьевич, а почему вас отправили именно в Могилевскую область бороться с коронавирусом?**

– Понятия не имею! С другой стороны, какая мне разница? В Могилевской области у меня хорошие отношения с губернатором Леонидом Константиновичем Зайцем – так что я даже рад был! Мы с ним на охоте познакомились еще в те далекие времена, когда он где-то в Молодечно работал. И с тех пор подружились.

**– Он случайно не был на той охоте, которая стала для вас печальной?**

– Нет, это я на своей базе упал.

Когда президент дал клич о восстановлении малой родины, я откликнулся. Жена умерла пять лет назад, и я оказался… Почувствовал, что надо мне что-то делать, чем-то заняться. Поехал на свою родину в Витебскую область, где предки мои захоронены. В той деревне – церковь середины XVIII века, и недалеко – усадьба моих родителей. Речки и пруды там все заросли… Короче, начал я всё это восстанавливать. И уже четыре года этим занимаюсь. Друзей привлек – они помогли, сделал хорошую охотничью базу. И решил устроить открытие. Пригласил всех местных охотников, была такая классная охота! Если бы я еще не сломал позвонок… Не повезло, конечно…

**– Сразу поняли, что перелом?**

– Конечно. Когда сверху вниз падаешь – это, как правило, компрессионный перелом. Если ноги-руки двигаются, в туалет ходишь без проблем, значит, нет нарушения тазовых органов. Мне повезло, что сдавило просто позвонок, обошлось без нарушения спинного мозга и нервов. Побаливает еще спина, но заживет! Я уже хожу, двигаюсь. Вот сейчас пришел из бассейна – проплыл полкилометра.

**– В каком санатории отдыхаете?**

– «Озерный». Хороший санаторий, мне здесь нравится.

**– По голосу слышно, что вы в ресурсе, не разбалансированы.**

– Я, даже когда полтора месяца лежал, духом не падал! У меня твердая нервная система.

**– А когда работу потеряли, когда двери все перед вами захлопнули, самообладание не дало сбой?**

– Понимаете, меня выгнали как ненужный элемент без объяснения причин. Хотя я сделал немало для онкологии на своей прежней должности. В наше время построить девять зданий и отремонтировать капитально центр – это не так просто...

Но я дома сидел ровно два дня.

**– Водку пили?**

– Ничего не пил. Поотдыхал и вышел на новую работу, причем сразу включился. Сейчас разрабатываю институт красоты, какого еще на было в стране. Если здоровье мне позволит, то будет. И он будет лучший!

**– Все-таки сила характера у вас есть!**

– Ну я же из деревни вышел! Кстати, в деревне своей я пруд уже восстановил, сейчас ищу в России спонсоров.

**– А почему в России?**

– У нас уже нет таких бизнесменов… Мне помогали пруд восстановить некоторые люди, имен называть не хочу, сейчас санкции против них ввели. Поэтому будем россиян привлекать, надо же дело до конца довести! А на фирме у меня хорошие отношения с владельцем, я ему очень обязан – он меня подобрал, не дал впасть в депрессию…

**– Вы так и не ответили на вопрос по поводу Всебелорусского собрания. Будете выступать? По большому счету, вам все равно уже нечего терять, а если уходить – так красиво!**

– Подумаю…

Я в медицине выступал резко и всегда в основном один. Ну вот, довыступался…

**Марина КОКТЫШ.**

ЭКСКЛЮЗІЎ

# «Ён здольны аб’яднаць людзей з розных сфер»

*Юрый Губарэвіч расказаў аб працы ў камандзе Латушкі.*

24 гады таму **Юрый Губарэвіч** быў сярод стваральнікаў «Маладога фронту». Пяты год ён узначальвае рух «За Свабоду». Чым апазіцыйны палітык займаецца ў камандзе **Паўла Латушкі**, які дзяржаўнай службе аддаў на год больш, чым Губарэвіч – змаганню з ёю?

Днямі Юрый Губарэвіч знаходзіўся ў Варшаве. Палітык запэўнівае, што гаворкі пра эміграцыю няма, у сталіцу Польшчы ён завітаў усяго на некалькі дзён: «*Намераў з’язджаць з Беларусі няма. Я тут, каб паразмаўляць з калегамі пра планы, у першую чаргу пра тыя, за якія я адказваю. Я ўжо не першы раз пакідаю на кароткі тэрмін Беларусь. Вядома, прадказаць нашу ўнутраную сітуацыю немагчыма, бо людзей затрымліваюць, даюць розныя тэрміны, заводзяць крымінальныя справы абсалютна беспадстаўна. Але мне асабіста баяцца няма чаго. Я ніколі не парушаў законаў, нават лукашэнкаўскіх, абсалютна недэмакратычных*».

Тым не менш Губарэвіч – сведка па крымінальнай справе супраць Каардынацыйнай рады, як і іншыя члены яе асноўнага складу.



## «Тут няма перакосу ў бок былых чыноўнікаў»

У Народным антыкрызісным кіраўніцтве Юрый Губарэвіч адказвае за рэгіянальнае развіццё. Свой удзел у камандзе, якая складаецца ў значнай ступені з былых дзяржаўных службоўцаў, ён называе «*ўнясеннем балансу*».

«*Зараз мы ўсе аб’яднаны адзінай мэтай – гэта перамены ў Беларусі, як мага хутчэйшае вяртанне да нармальнага жыцця і вяртанне народу права прымаць рашэнні ва ўласнай краіне. Усе тыя людзі, якія, нягледзячы на іх мінулае, стаяць цвёрда на гэтых мэтах, складаюць адзіную сілу. Унікальнасць пляцоўкі Народнага антыкрызіснага кіраўніцтва ў тым, што Павел Латушка здольны аб’яднаць людзей з розных сфер. Тут няма перакосу ў бок былых чыноўнікаў. Усё арганічна дапаўняецца новымі людзьмі, якія прыйшлі ў пратэст у мінулым годзе, са сфер, якія не тычацца палітыкі*».



## «Людзям трэба вярнуць права прымаць рашэнні на лакальным узроўні»

Нядаўна Юрый Губарэвіч прадставіў дакумент, які апісвае дзеянні Народнага антыкрызіснага кіраўніцтва да і падчас пераходнага перыяду ў галіне развіцця рэгіёнаў. У інтэрв’ю Радыё Свабода палітык расказаў пра свае прапановы.

• Мы сталі спадкаемцамі сістэмы СССР, калі шэсць абласцей БССР выглядалі нармальна на фоне такога ж падзелу ў суседніх рэспубліках. Цяпер гэта сістэма безнадзейна састарэла. Мы бачым лішні ўзровень. Частка буйных гарадоў, якія размешчаны далёка ад сваіх абласных цэнтраў, будуюць свае эканамічныя сувязі з буйнымі гарадамі іншых абласцей. Сістэма не працуе.

• Другі момант – бюракратыя. Трохузроўневая сістэма кіравання міліцыяй, такая ж сістэма вертыкалі, судоў і г.д. Гэта каласальная армія чыноўнікаў, якія дублююць функцыі адзін аднаго. Рэформа – гэта і скарачэнне бюракратычнага апарату, і набліжэнне гаспадарчых сувязяў вакол тэрыторый, якія склаліся арганічна. Такіх прыблізна 16 на нашай мапе.

• Павінна адбыцца рэформа мясцовага самакіравання. Людзям трэба вярнуць права прымаць рашэнні на лакальным узроўні. Большасць рашэнняў, якія датычацца жыцця чалавека, побытавага абслугоўвання і інфраструктуры, прымаюцца на высокім узроўні або тымі органамі, якія не фарміруюцца жыхарамі.

• Цяпер неабходна збіраць дадзеныя аб усіх рэпрэсіях з боку мясцовых органаў улады, аб фальсіфікацыі выбараў. Трэба раскрываць усе злачынствы чыноўнікаў – у тым ліку карупцыйныя схемы. Таксама важна арганізаваць кантроль за працай дэпутатаў усіх узроўняў.

• Татальных і неабгрунтаваных зачыстак не будзе. Гэтым мы адрозніваемся ад цяперашняй улады, якая праводзіць масавыя рэпрэсіі. Рашэнні будзе прымаць незалежны суд. Але ў рэгіёнах энтузіязм да незаконнай дзейнасці праяўляе лічаная колькасць людзей.

• Народнае антыкрызіснае кіраўніцтва правядзе конкурс «Кадравы рэзерв», каб знайсці замену рэгіянальным чыноўнікам, якія ўдзельнічалі ў палітычных рэпрэсіях, карупцыйных схемах і па-іншаму парушалі закон.

**Дзмітрый ГУРНЕВІЧ.**

